# ПАГОНЯ

Чацвер
19 красавіка 2001 г.
№ 16 (512)
Кошт 90 рублёў

## Слесар «Азота» адмовіўся ехаць на Усебеларускі сход, назваўшы яго «антыбеларускім шабасам»

**19 красавіка абласныя ўлады праводзяць урачысты сход, дзе плануюць абраць 350 дэлегатаў ад Гарадзенскай вобласці на так званы II Усебеларускі народны сход, які адбудзецца 18 траўня. Аднак, як стала вядома ПАГОНІ, гарадзенцаў на гэтым сходзе будзе менш за пазначаную лічбу, па меншай меры, на два чалавекі.**

У мінулую суботу «выказаў меркаванне» калгаснікаў намеснік старшыні калгаса «Азёры» Генадзь Мазюк. Ён прапанаваў вылучыць дэлегатам на сход ад калгаса... Аляксандра Лукашэнку. З запальнай прамовы Генадзя Мазюка ледзь не вынікала, што свой працоўны дзень Аляксандр Лукашэнка пачынае з пытання: «А як там наш калгас «Азёры»?»



Маўляў, Аляксандр Рыгоравіч не аднойчы заязджаў у калгас, і, дзякуючы яму, мы пабудавалі свінаферму, дзе гадуецца 12 тысяч свінняў.

А, уласна, II Усебеларускаму народнаму сходу Генадзь Мазюк надае лёсавырашальнае для калгаса значэнне. Бо, як толькі адбыўся I сход, дык калгаснікі «Азёраў» па ўсіх паказчыках у жывёла- і раслінагадоўлі перавысілі ўзровень 1990 года.

Пасля такіх словаў жыхары «Азёраў» аднагалосна абралі Аляксандра Лукашэнку дэлегатам на сход.

Днямі сваіх дэлегатаў на «народны» сход абраў і «Азот». Сярод сямёх вылучэнцаў: галоўны дырэктар прадпрыемства, намеснік дырэктара па інфармацыйнай рабоце, начальнік участка, тры начальнікі цэха і слесар.

Суседства ў такой кампаніі працоўнага чалавека з начальнікамі рознага рангу падалося нам дзіўным. Мы звярнуліся да абранага на сход слесара Міхаіла Пракопчыка з шэрагам пытанняў - якія планы, надзеі ён мае на гэты сход.

Вось, амаль даслоўна, тое, што адказаў нам Міхаіл Пракопчык:

- На гэты антыбеларускі шабас я не паеду. Сумленнаму чалавеку там няма чаго рабіць.

Не цікавяць Міхаіла Пракопчыка і тыя пытанні, якія будуць разглядацца на сходзе:

- Калі б я нават і паехаў туды, дык галасаваў бы супраць. Мяне спецыяльна абралі дэлегатам, каб паказаць наяўнасць нейкай апазіцыі...

Міхаіл Пракопчык, звычайны беларус, працоўны чалавек, адмовіўся ехаць на сход, які ён назваў «антыбеларускім шабасам».

Не выключана, што 2,5 тысячы дэлегатаў гэтага схода слёзна папросяць Аляксандра Лукашэнку застацца прэзідэнтам яшчэ на колькі гадоў. Альбо прымуць новую Канстытуцыю, якая надасць усім удзельнікам схода паўнамоцтвы дэпутатаў і правы прымаць любыя законы.

**Павал Мажэйка**

## Чарнобыльскі шлях у Гродне пройдзе 25 красавіка

**Чарнобыльскі шлях у Гродне пачнецца 25 красавіка а 17-й гадзіне малебнам па ахвярах катастрофы ў Каложскай царкве. Гэтае рашэнне было прынятае ў аўторак Радай БНФ «Адраджэньне».**

А 18-й гадзіне ўдзельнікі шляху пройдуць ад Старога замка да плошчы Леніна, каб ушанаваць падзеі дзвюхгадовай даўніны, калі гарадзенская міліцыя жорстка спыніла Чарнобыльскі шлях моладзі.

Старшыня Рады БНФ «Адраджэньне» Сяргей Мальчык адзначыў, што ўшаноўваць гэтыя падзеі стала ўжо ўнутранай традыцыяй Фронту: «Гэта наш гонар і мы абавязаны штогод узгадваць пра іх».

## Пашкадаваў воўк кабылу...

**Дэпутаты Гарадзенскага гарадскога Савета прынялі рашэнне змяніць з першага верасня бягучага года бюджэтныя датацыі на харчаванне вучняў сярэдніх школ горада.**

Згодна з рашэннем, з новага навучальнага года на харчаванне дзяцей з маламаёмасных сем'яў, сірот, дзяцей з мнагадзетных сем'яў, дзяцей-інвалідаў і тых, што знаходзяцца пад апякунствам, будзе выдаткоўвацца 6 працэнтаў ад мінімальнай зарплаты (МЗП) на дзень (на сёння гэта 342 рублі, з улікам таго, што МЗП складае цяпер 5 тысяч 700 рублёў). На харчаванне іншых катэгорый школьнікаў будзе выдаткоўвацца 2 працэнты ад МЗП, астатнія грошы будуць аплочваць бацькі.

Сёння датацыя на школьнае харчаванне з гарадскога бюджэту складае 4 працэнты ад «мінімалкі», альбо 228 рублёў. На харчаванне школьнікаў аднаго толькі раёна горада Гродна - Ленінскага - ідзе каля 4 мільёнаў рублёў у дзень.

**Павал Мажэйка**

## Аўтобусам на дачу

**З 22 красавіка пачнуць працаваць так званыя дачныя маршруты. Такое рашэнне прыняў 10 красавіка 2001 года гарадзенскі гарадскі Савет дэпутатаў.**

Як паведаміў Віктар Чыжык, намеснік дырэктара аўтобуснага парку, каля 18 экспрэсных маршрутаў будуць працаваць з 22 красавіка па 28 кастрычніка 2001 года. Іх маршрутная сетка будзе пачынацца ў розных пунктах Гродна, а заканчвацца ў садаводчых таварыствах: «Папараць», «Сябры», «Вішня», «Колас», «Чыстыя пруды», «Гарант» ды іншых. Кошт за праезд залежыць ад адлегласці садаводчага таварыства ад Гродна. Ільготы для студэнтаў і пенсіянераў захоўваюцца.

**Вікторыя Станкевіч**

## Пра Леніна не забываюцца

**З 13-га красавіка па 6-е траўня вуліца Леніна закрытая на рамонт. Аўтобусы 3, 8, 16 і маршрутныя таксоўкі рухаюцца праз вуліцу Будзёнага. Прыватныя аўтамашыны таксама вымушаны карыстацца аб'язнымі шляхамі.**

Дарога па вуліцы Леніна будзе пакладзена амаль нанова. Метраў семсот шашы будзе заасфальтавана, з'явяцца новыя тратуары. Зараз тут кладуць бардзюры.

**Ул.інф.**



### НАДВОР'Е

19, 20 красавіка - воблачна, з праясненнямі, месцамі - невялікія ападкі, вецер заходні, 4-9 м/с. Тэмпература паветра 19 красавіка ўначы +1...+6, удзень +5...+10; 20 красавіка ўначы -1...+4, удзень +6...+11.

## Ідзе Вялікая Чарнобыльская вайна!

**15 гадоў мінула з часоў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС. Аднак яе наступствы для нас усё яшчэ не сталі гісторыяй, бо яны моцна трымаюць у сваіх смяротных кіпцюрах наш народ.**

Ужо відавочна, што для беларусаў чарнобыльская навала па сваіх дэмаграфічных наступствах значна пераўзыходзіць другую сусветную вайну, калі загінуў кожны трэці беларус. Але яшчэ страшней тое, што мы не ведаем, наколькі большую за вайну шкоду гэтая катастрофа нам прынясе ў перспектыве, бо наступствы яе толькі разгортваюцца. Каб не быць галаслоўным, спашлюся на выніку апошняга перапісу насельніцтва Гомельшчыны (1999 г.). Паводле яго пабудавана так званая дэмаграфічная піраміда, якая адлюстроўвае структуру насельніцтва па ўзроставых групах (гл.малюнак 1).




Мал.1. Структура насельніцтва Гомельшчыны па полу і ўзросту (*Дэмаграфічная піраміда*). Паводле перапісу 1999г.

У норме такая піраміда павінна мець шырокі падмурак, масіўнае цела і вузкае наверша. Шырыня падмурка залежыць ад колькасці нованароджаных і дзяцей ва ўзросце да чатырох гадоў. Вышыня цела піраміды залежыць ад сярэдняй працягласці жыцця людзей, вышыня наверша - ад максімальнай працягласці жыцця доўгажыхароў. Плошча ўсёй піраміды прапарцыянальная колькасці насельніцтва Гомельшчыны.

**(Працяг - на стар. 4)**

## Сустрэча з «Правінцыяй»

**Сёння рэдакцыя ПАГОНІ і гарадзенскія літаратары - сябры Беларускага ПЭН-цэнтру ладзяць прэзентацыю беластоцкага літаратурна-мастацкага часопіса «ПРАВІНЦЫЯ». Імпрэза мае адбыцца а 19-й гадзіне ў будынку па вуліцы Карла Маркса,11, на першым паверсе.**

Аматары беларускага вольнага слова займеюць магчымасць сустрэцца з галоўным рэдактарам «ПРАВІНЦЫІ» Аляксандрам Максімюком. У імпрэзе таксама возьмуць удзел аўтары ўнікальнага часопіса: Сяргей Астравец, Юры Гумянюк, Анатоль Брусевіч і Эдзік Мазько.

**Адам Гонар**

## Чым больш мінімалка, тым менш стыпендыя

**Чаканага ў красавіку падвышэння стыпэндыяў для студэнтаў не адбылося. Між тым, мінімальны заробак у сакавіку ўзрос на 2700 беларускіх рублёў.**

Як паведамілі «ПАГОНІ» ў бухгалтэрыі Гарадзенскага дзяржаўнага універсітэта, у сувязі з пастановай Савета Міністраў РБ «Аб памеры выплатаў дзяржаўных стыпендыяў» апошняя не залежыць ад «мінімалкі», а вызначаецца тым жа Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь. На сённяшні дзень вызначаная вучэбная ці мінімальная стыпендыя складае 8700 беларускіх рублёў, а максімальная для студэнтаў-гуманітарыяў - 13050 беларускіх рублёў, для студэнтаў-тэхнікаў - 13920 беларускіх рублёў.

Калі раней вучэбная стыпендыя была роўнай двум мінімальным заробкам (на сённяшні дзень - 11400 беларускіх рублёў), то пасля пастановы і чарговага росту «мінімалкі» яна стала на 2700 рублёў меней. Атрымоўваецца, стыпендыя зніжаецца прапарцыянальна росту мінімальнай зарплаты. І гэта падчас таго, як ўзраслі кошты на харчовыя прадукты, чыгуначны транспарт і нават гарэлку.

Зацягвайце яшчэ тужэй пасы, студэнты, бо ў траўні падвышэння вашай стыпендыі таксама не будзе!

**Юля Коцкая**

## Прызначаны новы камандзір 28-га армейскага корпуса

**У пятніцу, 13 красавіка, міністр абароны Беларусі Леанід Мальцаў адрэкамендаваў афіцэрскаму складу 28-га армейскага корпуса новага камандзіра - генерал-маёра Анатоля Нікіціна.**

Анатоль Нікіцін змяніў на камандзірскай пасадзе Сяргея Гурулёва, якога Аляксандр Лукашэнка прызначыў начальнікам Галоўнага штаба Рэспублікі Беларусь.

Генерал-маёр Нікіцін прыбыў у Гродна з Барысава, дзе з 1997 года камандаваў 65-м армейскім корпусам.

**Павал Мажэйка**

**ПАГОНЯ перапрашае тэлегледачоў НТВ за кардынальныя змены ў праграме канала. На вялікі жаль, у сувязі з тым, што гэтыя змены былі пададзеныя нам занадта позна, рэдакцыя не здолела ўнесці адпаведныя карэктывы.**

# Пра акт дзяржаўнай здрады

**12 красавіка 2001 году так званая палата прадстаўнікоў учыніла дзеяньне супроць інтарэсаў Беларусі. Члены палаты «ратыфікавалі» пагадненьне пра наданьне расейскаму рублю статусу валюты Рэспублікі Беларусь.**

Адзіным аргумэнтам для «ратыфікацыі» было тое, што гэтае пагадненьне ратыфікавала Дзярждума Расейскай Фэдэрацыі. Члены «палаты» непасрэдна парушылі Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь, артыкулы 1, 8, 136. Гэтыя артыкулы усталёўваюць наступныя палажэньні:

- артыкул 136 - «...Нацыянальны банк...валодае выключным правам эмісіі грошай»;

- артыкул 8, абзац 3 - «Не дапускаецца заключэньне міжнародных дамоваў, які супярэчаць Канстытуцыі»;

- артыкул 1, абзац 3 - «Рэспубліка Беларусь абараняе сваю незалежнасьць і тэрытарыяльную цэласнасьць, канстытуцыйны лад, забясьпечвае законнасьць і правапарадак».

Крымінальны Кодэкс, артыкул 356, дакладна кваліфікуе такое дзеяньне - «...оказание иностранному государству помощи в проведении враждебной деятельности против Республики Беларусь путём совершения преступлений против государства по заданию органов или представителей иностранного государства, умышленно совершённое гражданином Республики Беларусь в ущерб внешней безопасности Республики Беларусь, её суверенитету, территориальной неприкосновенности, национальной безопасности и обороноспособности (измена государству), - называется лишением свободы на срок от семи до пятнадцати лет».

Лукашэнку і палатнікам не ўдасца прыкрыць сваё злачынства «канстытуцыйным актам», які яны распрацоўваюць і які паспрабуюць прасунуць праз так званы «ўсебеларускі сход» 18 траўня 2001 году. Робіцца гэта таемна ад грамадства, таму адбор удзельнікаў сходу вядзецца пад пільным наглядам рэжыму.

«Ратыфікацыя» высьвятляе сутнасьць намаганьняў расейскай дыпляматыі, антыбеларускага лукашэнкаўскага рэжыму і прамаскоўскай «апазыцыі». Яны імкнуцца рознымі мэтадамі схіліць заходнія краіны прызнаць легітымнасьць «палаты». Прызнаньне «палаты» за легітымны парлямант неабходныя Маскве толькі для наданьня выгляду законнасьці далучэньня Беларусі да Расеі. Задачы акупацыі Беларусі расейскі імпэрскі рэжым перавёў у закрыты так званы «саюзны» працэс і вырашае іх праз захоп кіруючых пасадаў у выканаўчай уладзе і сілавых ведамствах, праз зьнішчэньне беларускага бізнэсу і незаконнай прыватызацыі беларускай уласнасьці.

Здрадніцкія дзеяньні прамаскоўскай групоўкі сустрэнуць рашучы адпор беларускай грамадзкасьці. Грамадзяне Беларусі маюць канстытуцыйнае права абараняць незалежнасьць сваёй краіны. Прадстаўнікі працоўных калектываў прадпрыемстваў, калгасаў, установаў, прафсаюзаў, грамадзкіх арганізацыяў усёй Беларусі 18 траўня 2001 году праявяць ініцыятыву і зьбяруцца на плошчы Кастрычніцкай у горадзе Менску, каб прадэманстраваць сваю пазыцыю.

**Кіраўніцтва Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі - БНФ**
**13 красавіка 2001 году**




## Пагоня на здраду

*Сабярыся з духам,*
*Не адцягвай кары,*
*Занядбаным продкам*
*Паглядзі у твары.*

*Паглядзі на сцяг свой*
*Бел-чырвона-белы,*
*Прыслухайся, дружа,*
*Да душы збалелай.*

*Не цурайся крыжа*
*ды Святой Пагоні -*
*Не прыдзецца гніці*
*У чужым палоне.*

*Хопіць, хлопча, ганіць*
*Матчынае мовы!*
*Не баішся страціць*
*Боскае аховы?*

*О, магутны Божа,*
*Да цябе малюся:*
*Не баюся катаў -*
*Здраднікаў баюся.*

*Ты даруй ім, Божа,*
*Розуму зацьменне,*
*Павярні іх тварам*
*Да свайго сумлення...*

**Іван Гайваронскі**

# Красавіцкі Сойм БНФ

**На Сойме разглядаліся два пытаньні: падрыхтоўка да выбарчай кампаніі й Чарнобыльскі шлях ды іншыя масавыя акцыі.**

У першым пытаньні абмяркоўвалася тактыка БНФ у КРДС і ў дачыненьнях з прэтэндэнтамі ў кандыдаты на прэзыдэнцкі пост. «Празь месяц БНФ перайймае вядзеньне КРДС, і мы спадзяемся, што і да гэтага часу, і падчас нашага старшыняваньня мы выканаем пастанову КРДС аб тым, што Каардынацыйная рада вызначаецца з адзіным прэтэндэнтам да моманту збору подпісаў», - сказаў старшыня арганізацыі Вінцук Вячорка.

На Сойме было спэцыяльна падкрэсьлена, што і немэтазгодна, і недапушчальна сеяць ілюзіі, нібыта можна зьбіраць подпісы за некалькіх прэтэндэнтаў.

Быў зроблены пратакольны запіс аб тым, што чуткі пра тое, што БНФ, нібыта, разглядае магчымасьць байкатаваньня прэзыдэнцкіх выбараў, ні на чым не грунтуецца. Наадварот, БНФ самым актыўным чынам рыхтуецца да прэзыдэнцкіх выбараў, і сваю дзейнасьць падпарадкоўвае менавіта выбарам.

Сойм прыняў рашэньне распрацаваць спэцыяльны зварот да грамадзтва Беларусі з заклікам дамагацца законнасьці будучых выбараў, не дапускаць спэкуляцыі рэжыму падчас гэтак званых «датэрміновых выбараў» і заклікаць людзей прыходзіць на выбары толькі ў сам дзень галасаваньня.

Па другім пытаньні парадку дня быў абмеркаваны і ўхвалены сцэнар адзначэньня 15-й гадавіны Чарнобыля, распрацаваны Нацыянальным арганізацыйным камітэтам, заслуханая інфармацыя з абласных ды іншых буйных гарадоў - Горадні, Гомля, Берасьця, Баранавічаў, Маладэчна, Менскага раёну, Сьветлагорску й іншых мясьцінаў, якія зьбіраюцца адзначаць сумную гадавіну.

Была прынятая Заява Сойму Партыі БНФ у сувязі з ратыфікацыяй «палатай прадстаўнікоў» пагадненьня аб увядзеньні «саюзнай грашовай адзінкі». У Заяве гаворыцца, што «ў Беларусі хочуць адабраць пэрспэктыву дасягнуць фінансавай стабілізацыі й далучыцца да сапраўды надзейных эканамічных саюзаў - такіх, як зона эўра. Бо Расея не зьбіраецца ўваходзіць у эўрапэйскія палітычныя й эканамічныя інстытуцыі. Але любыя рашэньні неканстытуцыйнай, не выбранай законным чынам, не прызнанай міжнароднай супольнасьцю структуры, якою зьяўляецца «палата прадстаўнікоў», ня маюць ніякай праўнай сілы й будуць адмененыя адразу пасьля ўзнаўленьня ў краіне канстытуцыйнай законнасьці».

**Ул. інф.**

# «Чацвёрка» ўсё яшчэ разам?

**На чарговым пасяджэнні Каардынацыйнай рады «Гродзенская ініцыятыва» старшыня камітэта, магчымы кандыдат у прэзідэнты Беларусі Сямён Домаш праінфармаваў прысутных пра апошнія палітычныя падзеі ў краіне.**

Было адзначана, што дэмакратычная грамадскасць настойліва заклікае асноўных вылучэнцаў шырокай народнай супольнасці на выбарах-2001 кансалідавацца вакол найбольш аўтарытэтнай у народзе асобы. Такая дамоўленасць паміж Сямёнам Домашам, Уладзімірам Ганчарыкам, Міхаілам Чыгіром і Паўлам Казлоўскім дасягнута.

Яны ўзгадняюць свае пазіцыі ў вызначэнні тэрмінаў важнага палітычнага рашэння. На папярэднім этапе кожны з іх дзейнічае самастойна. Збор неабходных 100.000 подпісаў для вылучэння кандыдатам у прэзідэнты будзе сур'ёзнай праверкай кожнага ўдзельніка кааліцыі чатырох, іх арганізацыйных здольнасцяў, папулярнасці ў выбаршчыкаў, паслужыць адной з падставаў для вызначэння адзінага. Пакуль невядома, калі гэта адбудзецца - да ці пасля рэгістрацыі.

**Уладзімір Кавалёў**

# «Зубры» ў Слоніме

**14 красавіка на рынку Слоніма «зубры» распаўсюджвалі касеты з фільмам Паўла Шарамета «Дзікае паляванне», які распавядае пра лёсы зніклых на Беларусі вядомых людзей. Разам з касетамі «зубры» раздавалі агітацыйныя ўлёткі, бюлетэні «Зубра» і налепкі.**

Таксама ў цэнтры горада былі расклеены партрэты Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага і Дзмітрыя Завадскага. Аднак, партрэты правіселі толькі пару гадзін. Цікава, чаму гэта ўладам не падабаюцца твары зніклых людзей?

# Злачынства Нацыянальнага сходу

**Нацыянальны сход Рэспублікі Беларусь ратыфікаваў пагадненне з Расеяй аб увядзенні адзінай грашовай адзінкі ды стварэнні адзінага эмісійнага цэнтра. Як вяшчалі па радыё, эмоцыі не перашкодзілі здароваму сэнсу. З усяго парламента знайшлося толькі тры дэпутаты, якія прагаласавалі супраць. Гэтага трэба было і чакаць. Кішэнны парламент не можа прагаласаваць інакш як станоўча. А.Малафееў супакойвае, што гэтае пагадненне яшчэ будзе прапрацоўвацца, што ўсё будзе няхутка і не супярэчыць Канстытуцыі. Дык для чаго яго заўчасна ратыфікаваць?**

Атрымоўваецца, што здаровага сэнсу пры ратыфікацыі якраз не было. У свой час міністр юстыцыі Рэспублікі Беларусь Г.Варанцоў нават заявіў, што гэтае пагадненне супярэчыць Канстытуцыі РБ. А старшыня Канстытуцыйнага суда Р.Васілевіч гаварыў пра ратыфікацыю гэтага пагаднення толькі пры ўнясенні змяненняў у Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь парламентам.

Давайце разгледзім прававыя высновы ратыфікацыі. Пачнем з Дэкларацыі Вярхоўнага Савета БССР «Аб дзяржаўным суверэнітэце» 1990 года, якой быў нададзены статус канстытуцыйнага закона.

У артыкуле 5 гаворыцца: «Беларуская ССР утварае Нацыянальны банк, падпарадкаваны Вярхоўнаму Савету, стварае сваю фінансава-крэдытную сістэму,.. мае права на стварэнне ўласнай грашовай сістэмы».

У Канстытуцыі 1996 года (раздзел 7, артыкул 136) адзначана: «Банкаўская сістэма Рэспублікі Беларусь складаецца з Нацыянальнага банка РБ і другіх банкаў. Нацыянальны банк рэгулюе крэдытныя адносіны, грашовае абарачэнне, вызначае падатак разлікаў і валодае выключным правам эмісіі грошай».

Раздзел 8, артыкул 137: «Канстытуцыя валодае вышэйшай юрыдычнай сілай».

У адрозненні ад іншых раздзелаў Канстытуцыі, раздзел 7 «Фінансава-крэдытная сістэма Рэспублікі Беларусь» можа быць зменены пасля разгляду палатамі парламента па ініцыятыве прэзідэнта ці не менш чым 150 тысяч грамадзянаў Беларусі (артыкул 138).

Закон аб змяненні і дапаўненні Канстытуцыі можа быць прыняты пасля двух абмеркаванняў і ўхваламі парламента з адтэрміноўкай не меней за тры месяцы (артыкул 139), і за яго павінна прагаласаваць не менш 2/3 складу кожнай з палатаў (артыкул 140).

Такім чынам, Нацыянальны сход адмовіўся ад самастойнай фінансава-крэдытнай сістэмы Рэспублікі Беларусь, здзейсніў злачынства, таму што парушыў Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце РБ, многія артыкулы Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

У выніку - ратыфікацыя пагаднення незаконная. Такі Нацыянальны сход, які зрабіў адпаведныя дзеянні супраць нацыянальнай дзяржаўнасці, павінен датэрмінова скласці паўнамоцтвы. А ўсе прагаласаваўшыя за гэтае пагадненне, павінны быць прыцягнутыя да адказнасці, у тым ліку і прэзідэнт, які ў свой час падпісваў гэтае пагадненне. Вось гэта і ёсць здаровы сэнс. Цяпер слова за Канстытуцыйным судом Рэспублікі Беларусь.

**Мікалай Садоўскі, пенсіянер**

# Вусатага запусцілі ў космас

**У мінулы чацвер, 12 сакавіка, актывісты гарадзенскіх моладзевых арганізацыяў - «Малады Фронт», «Моладзь АГП» і «Маладая Грамада» - запусцілі ў гонар Сусветнага Дня касманаўтыкі чатыры імправізаваныя ракеты.**

Да ракетаў быў прымацаваны лозунг «Зрабіў справу - смела ў палёт» і карыкатура прывязанага ланцугом да ракеты, якая ляцяць на Месяц, вусатага чалавека.

«Байкануроамі» ў Гродне сталі будынкі дзяржуніверсітэта імя Янкі Купалы, Аграрнага і Медычнага універсітэтаў, а таксама месцы масавага збірання моладзі.

У галоўным корпусе універсітэта імя Янкі Купалы ўдзельнікі акцыі запусцілі ракету з пасланнем пад столь у фае. Гарадзенскі «Аполо», прымацаваны да каляровага паветранага шарыка, адразу выклікаў ажыўленне ў студэнтаў.

Разам з відовішчам некалькі соцень студэнтаў атрымалі ўлёткі з тэкстамі: «Хутка выбары прэзідэнта! ЁН павінен пайсці! Студэнт - прыкладзі да гэтага сваю руку!!!»

Ракета, якая стартавала ля гарадскога Дома афіцэраў, заблыталася ў галінах дрэваў. На што група юнакоў са смехам адрэагавала, маючы на ўвазе выяву вусатага чалавека: «Не тое, што ў прэзідэнты, - такіх не бяруць у касманаўты!»

**Павал Мажэйка**

Нягледзячы ні на што віншуем *Ілью Глыбоўскага,* «чалавека ў панамцы», з чарговым Днём нараджэння!
«Старадаўняй Літоўскай Пагоні не дагнаць, на знайсці, не стрымаць»!
**Сябры**

# Як Андрэя Тура міліцыя рабіла «согласным»

**За пераход вуліцы ў неналежным месцы гарадзенец Андрэй Тур быў збіты супрацоўнікамі ДАІ, адседзеў у скоцкіх умовах у ізалятары часовага ўтрымання Ленінскага РАУС амаль двое сутак і атрымаў штраф у памеры аднаго мінімальнага заробку.**

Андрэй Аляксеевіч, шыракаплечы, высокага росту малады мужчына, вадзіцель аднаго з прыватных прадпрыемстваў, муж і бацька, заўважна хвалюецца:

- Гэта здарылася сёмага красавіка. Са мною былі двое дзяцей: аднаму дзесяць гадоў, другому - восем. Мы вярталіся дахаты са стадыёна «Нёман», дзе дзеці займаюцца хакеем. На перакрыжаванні вуліцаў 17 верасня і Ухчозаўскай, адразу пасля пераходу вуліцы, нас затрымаў нарад ДАІ - тры чалавекі на чале са старшым лейтэнантам. Адзін з іх меў нагрудны знак 035. Яны заявілі, што мы парушылі правілы пешаходнага пераходу...

Спадар Тур аказаўся чалавекам, што называецца, «непуганым», і папрасіў, каб яму патлумачылі, што ж ён парушыў. Адказ прагучаў даволі грунтоўны. У тым сэнсе, што калі ён і надалей будзе такім разумным, то пойдзе «на нары». Спадар Тур сітуацыі не зразумеў і ў далейшым ад прапановы паставіць у пратаколе ўласную паметку «Согласен» стаў катэгарычна адмаўляцца. Тады...

- Мяне скруцілі і запхнулі у ВАЗ-21099. У адказ на маю рэпліку, што без дзяцей я нікуды не паеду, мяне супакоілі тым, што, на іхнюю думку, мае дзеці ўжо дарослыя і дахаты дабяруцца самі. Я паспрабаваў выйсці з машыны, але старэйшы лейтэнант два разы з усяе сілы ўдарыў мяне кулаком па рэбрах...

Праз тры дні судамедэксперт, да якога Андрэй Тур звернецца адразу пасля адсідкі ў ізалятары, прыйдзе ў сваім афіцыйным заключэнні да высновы, што траўмы, а менавіта, «два... кровоподтёка сине-фиолетового цвета с зеленоватым оттенком» атрыманыя парушальнікам правілаў пешаходнага пераходу ад «травматического воздействия тупого предмета и по своему цвету не противоречат сроку образования...». Аднак перад гэтым ахвяры «воздействия тупого предмета» давялося адседзець у ізалятрары Ленінскага РАУСу, куды спадара Тура здалі на той падставе, што ён аказваў «сопротивление», «выражался нецензурно» і гэтак далей. Паводле словаў пацярпелага, хацелі яшчэ напісаць, што ён быў п'яны. Аднак Андрэй Аляксеевіч запатрабаваў, каб яго адвезлі да доктара-нарколага. Тады яму дазволілі застацца цвярозым...

- У камеры N11, куды мяне пасадзілі, было шэсць чалавек, а туалет не працаваў. Дзяжурны толькі смяяўся ў адказ на просьбу схадзіць «да ветру». Так працягвалася ўвесь час - з 18 гадзін суботы да 11 гадзін панядзелка.



Андрэй Тур

Дарэчы, пакармілі за гэты час толькі адзін раз...

Перад прыходам суддзі ў камеру зайшоў дзяжурны па ізалятару і гучна абвесціў:

- Хто не згодны з пратаколам, той атрымае «суткі». Хто згодны - штраф, і адразу пойдзе дахаты.

Атрымаўшы на рукі свой пратакол, спадар Тур паспешліва вывеў так патрэбнае міліцыянтам слова «Согласен».

- На той момант, я гатовы быў на ўсё, толькі б вырвацца адтуль, - заявіў пазней у рэдакцыі ПАГОНІ Андрэй Тур.

...На строгае, але справядлівае пытанне суддзі наконт таго, як гэта ён - Андрэй Тур - дакаціўся да такога жыцця, ён прамармытаў нешта пра тое, «што гэтага больш не паўторыцца». І, як «раскаявшийся», атрымаў мінімальнае пакаранне - штраф памерам у адзін мінімальны заробак...

- Не веру, што вінаватыя ў гэтай гісторыі панясуць пакаранне. Я зразумеў, што яны там усе аднолькавыя. Не думаю, што ў ізалятары часовага ўтрымання пасля гэтага адрамантуюць унітаз. Я хачу аднаго: каб гэтыя людзі публічна даведаліся, што я не згодны з тым, як па-скоцку яны абышліся са мною. Паіхняму, «НЕ СОГЛАСЕН...»

...У пракуратуры Ленінскага раёна з 10 красавіка ляжыць скарга грамадзяніна Тура на дзеянні міліцыянтаў. На момант падрыхтоўкі нумара да друку пра вынікі пракурорскага расследавання яшчэ нічога не было вядома.

**Мікола Туравец**

Со слов освидетельствуемого, 7.04.2001 года около 17.40 на перекрестке ул.17 сентября и Ухчозовской в гор.Гродно при переходе проезжей части дороги по пешеходному переходу беспричинно был задержан работниками ГАИ, которые применив физическую силу посадив в служебный автомобиль, сопротивление им не оказывал.

В салоне автомобиля один из сотрудников милиции несколько раз ударил локтем и кулаком по грудной клетке справа. Сознание не терял. За мед помощью не обращался, так как был помещен в изолятор временного содержания.

Жалобы на боли в правой половине грудной клетки, усиливающиеся при физической нагрузке.

ДАННЫЕ ОБЪЕКТИВНОГО ИССЛЕДОВАНИЯ

На правой боковой поверхности грудной клетки на уровне 7-го - 9го ребер по средне-ключичной и передне-подмышечной линиям расположены два овальных кровоподтека сине-фиолетового цвета с зеленоватым оттенком по периферии размерами 2х4 см,6х4 см.При пальпации и осевой нагрузке на правую половину грудной клетки отмечает умеренную болезненность.в проекции 8-9-го ребер справа,по передне-подмышечной линии.

ВЫВОДЫ

Телесные повреждения у гр-на Тур А.А. - кровоподтеки правой половины грудной клетки относятся к категории ЛЕГКИХ, не повлекшихкратковременного расстройства здоровья, образовались от травматического воздействия тупого предмета и по своему цвету не противоречат сроку образования, указанному в постановлении и пострадавшим.

Государственный
судмедэксперт [illegible]ошко А.М.
ТП 10.04.2001 года



# Калі да Вас падышоў міліцыянт...

**...І вось ён да Вас падышоў. На вуліцы. Адзін альбо з цэлым нарадам міліцыі. У форме ці ў цывільным.**

**Мала таго. Міліцыянт сказаў сваю ўлюбёную фразу - «пройдёмте». І Вы пайшлі. А дарэмна!**

Адпаведна інструкцыям, народжаным у самім МУС, кожны работнік міліцыі (незалежна ад таго, ці ў форме ён, ці ў цывільнай вопратцы, начальнік ён, які сядзіць у кабінеце, і народ ніколі не бачыць, ці самы просты радавы, што працуе «на зямлі»), перш як сказаць грамадзяніну «пройдёмте» абавязаны прадставіцца. (Дарэчы, і слова гэткага ў статутах няма; ёсць іншыя, больш афіцыйныя і дакладна размежаваныя паняцці). І не проста незразумела прамармытаць нешта падобнае на прозвішча, а выразна і дакладна назваць сваё міліцэйскае званне, прозвішча і аддзяленне міліцыі, дзе ён працуе. Пры патрэбе - паўтарыць сказанае, а яшчэ пры большай патрэбе (Вашай, канешне) - пачакаць, пакуль Вы яго прозвішча і званне запішаце. Бо цалкам магчыма (пра гэта кажуць самі міліцыянты), што пад формай хаваюцца самыя звычайныя рабаўнікі альбо махляры. Так што не лішнім будзе папрасіць у міліцыянта, які да Вас падышоў, прад'явіць пасведчанне асобы, нават не зважаючы на ягоную форму, а ў цывільнага - абавязкова. І калі ён знойдзе нейкую зручную прычыну, каб не прад'яўляць пасведчанне, то размаўляць з ім не варта да таго часу, пакуль Вы не пераканаецеся, што перад Вамі сапраўды - вартавы парадку.

Наступнае, што абавязаны зрабіць міліцыянт, калі яго асоба ўжо высветленая, - патлумачыць Вам, чым выкліканы ягоны зварот менавіта да Вас. І зноў жа зрабіць гэта выразна, дакладна і зразумела. А калі Вы пачулі нешта неразборлівае, то не будзе лічыцца за парушэнне, калі Вы ветліва папросіце міліцыянта паўтарыць ягоныя словы.

Канешне ж, гэта не мае дачынення да так званых экстрэмальных сітуацыяў: такіх як бойка, панажоўшчына ці таго горай - калі ўчыняецца злачынства і яўна не да цырымоніяў. Але зноў жа, цырымоніяў не можа быць толькі з тымі, хто ў гэтых злачынствах удзельнічае.

Цалкам магчыма, што міліцыянт, які падышоў да Вас, лічыць што Вы парушылі адзін з артыкулаў Адміністратыўнага Кодэкса і на Вас варта скласці пратакол, а мо Вас проста папросяць пабыць у якасці сведкі або панятога.

Таму, пасля вельмі настойлівай просьбы «пройдёмте», Вам неабходна высветліць свой статус: хто Вы зараз - затрыманы, сведка ці пацярпелы (цалкам магчыма, што Вы пра гэта яшчэ не ведаеце). Хаця паводле тых жа інструкцыяў МУС, міліцыянт сам абавязаны паведаміць Вам пра Ваш статус. Гэта, дарэчы, немалаважна, бо статус вызначыць усе Вашы далейшыя паводзіны і ступень зносінаў з узгаданым міліцыянтам.

Калі Вас запрашаюць некуды - адпаведна ў Вас статус свабоднага чалавека, і Вы можаце прыняць запрашэнне альбо адмовіцца ад яго. Гэта ўсё роўна, што Вас запрашаюць у госці, а Вам туды ісці зусім не хочацца. Запрашэнне (не блытаць з позвай) абавязковым не з'яўляецца! Многія людзі, якія пайшлі па такому запрашэнню, потым апынуліся абвінавачванымі па адміністратыўных справах, пра якія датуль і паняцця не мелі. Таму ў такіх выпадках неабходна быць надзвычай асцярожным.

Канешне ж, гэта не сведчыць пра тое, што дапамагаць міліцыі не трэба, але прымаць рашэнне - ісці альбо не і ці сядаць у міліцэйскую машыну па запрашэнню - усё-ткі Вам, але не работнікам міліцыі.

Калі ж Вас затрымліваюць за нейкае правапарушэнне, і работнік міліцыі аб'явіў Вам пра гэта, то супраціўляцца не трэба. Бо на любое Ваша пацісканне плячыма ці ўзмах рукі работнік міліцыі абавязкова складзе новы пратакол, але гэтым разам ужо «о злостном неповиновении работнику...». Варта толькі нагадаць яму, што пратакол, адпаведна Адміністратыўнага Кодэкса, трэба складаць на месцы, і толькі ў выпадку немагчымасці зрабіць гэта, належыць дастаўляць затрыманага ў аддзяленне для складання пратаколу. Так што зусім неабавязкова затрымліваць Вас і «доставлять». А міліцыянт, паводле тых жа інструкцыяў, проста абавязаны быць экіпіраваным, г.зн. мець ручку і бланкі пратаколаў. Праўда, практыка сведчыць, што ў гэтай сітуацыі ад Вас нічога не залежыць - як парушальнік Вы абавязкова станеце затрыманым і дастаўленым, і пры гэтым зусім бясспраўным і безабаронным, бо пракурора ў дзяжурнай частцы, як вядома, не будзе.

У гэтым выпадку Вам неабходна нагадаць міліцыянту пра тых, хто знаходзіўся побач з Вамі (калі такія былі) у момант пакуль што мяркуемага здарэння і патрабаваць ад яго, каб ён узяў з іх паказанні сведак. Гэта таксама важна, бо на судзе ў адміністратыўных справах, як правіла, сведкамі фігуруюць міліцыянты.

Дарэчы, пашпарт з сабою пастаянна насіць зусім неабавязкова. Вашу асобу, калі гэта так настойліва патрабуецца ці выстаўляецца як прычына затрымання, цалкам могуць пацвердзіць людзі, які знаходзяцца побач з Вамі, калі яны маюць дакументы альбо хутка могуць іх прынесці. А калі Вы не правапарушальнік, то, тым больш, Вас у міліцыю дастаўляць не маюць права. Таму што адсутнасць дакументаў падставай для затрымання не з'ўляецца. Тут, праўда, ёсць адно «але» - Вы можаце быць падобным на злачынцу, што «паўгадзіны таму абрабаваў прахожага» і які знаходзіцца ў вышуку. У гэтым выпадку, дзеянні міліцыі па Вашай дастаўцы ў аддзяленне будуць цалкам апраўданымі, нават калі фактычна міліцыянт памыліўся.

І апошняе. Калі Вас затрымалі і вядуць (ці вязуць), не забудзьцеся паведаміць работнікам міліцыі, што Вы лічыце затрыманне незаконным і маеце намер яго абскардзіць. Пастарайцеся сказаць пра гэта спакойным тонам. Бо часцей за ўсё міліцэйскія чыны, асабліва маладыя, фармулююць гэта ў пратаколах і рапартах як «оскорбление». Хаця юрыдычна гэта абразай не лічыцца. І не звяртайце ўвагі на смех з боку міліцыянтаў - час пакажа, хто мае рацыю...

**Андрэй Паверскі**

# «Міліцыянты замярзаюць на вуліцах. П`яныя»

**На публікацыю, якая мела загаловак пазначаны вышэй (гл. ПАГОНЮ №10 ад 7 сакавіка), у рэдакцыю прыйшоў ананімны ліст. Змест яго, як здаецца нам, будзе цікавым не толькі для супрацоўнікаў рэдакцыі, але і для вас. Зрэшты мяркуйце самі...**

«Прывітанне, Антон Клёк! Прачытаў твой «дзябёлы» артыкул пра п'яных ментоў. Ну і лухта. Папершае, скуль такая інфармацыя, што кожны дзесяты мент - парушальнік закона? Няўжо ад МУС? Калі гэта нават і было б так, то ты, правінцыйны журналіст, пра гэта ніколі б не даведаўся. Па-другое, у камітэце па выкананні пакаранняў няма ніводнага мента, там служаць вайскоўцы. Па-трэцяе, увесь твой артыкул - поўная бязглуздзіца, разлічаная на дэбілаў.

За што Вы ненавідзіце ментоў? За тое, што яны «калбасяць» апазіцыянераў? Дык тут, па вялікаму рахунку, не ментоў віна. Яны гэта робяць не па сваёй віне. Хаця я пагаджуся з тым, што і сярод іх хапае ўсякіх выродкаў накшталт АМАПу і да яго падобных, якія ў размове і двух словаў звязаць не могуць, а ўсе іх вартасці заключаюцца ў разбіванні цэглаў аб галаву. А гаварыць пра тое, што менты - казлы, - тое самае, што сцвярджаць, што куля вінаватая ў смерці чалавека, а не той, хто страляе. Бо хто аддае ментам загады, ты, напэўна, выдатна ведаеш. Магу цябе запэўніць, што і сярод ментоў ёсць нармальныя людзі.

А калі хочаце напісаць пра ментоў, дык вось вам некаторыя факты. Вы, мабыць, чулі пра скарачэнне кіраўніцкага штата. Дык вось, наколькі мне вядома, ніводнага кіраўніка не скарацілі і скарачаць не будуць. Скарачэнне робіцца шляхам вывядзення за штат такіх службаў, як сувязісты, фінансісты, некаторых тылавых ды іншых службаў.

Ва УУС Гарадзенскага аблвыканкама кіраўніцтва раз'язджае па справе і проста так на «Опелях», якія заўсёды запраўленыя бензінам і абслугоўваюцца ў першую чаргу. А ў участковых, якія непасрэдна выязджаюць на здарэнні, часцяком няма бензіну.

У сакавіку месяцы дажыліся да таго, што ментам своечасова не выплацілі заробак...

**Ваш чытач»**

 



НЕ МАГУ МАЎЧАЦЬ!

# Ідзе Вялікая Чарнобыльская вайна!

**(Працяг. Пачатак - на стар. 1)**

Вядома, што ў постчарнобыльскі перыяд народанасельніцтва нашай вобласці няўмольна змяншаецца **(гл.малюнак 2)**. Гэта звязана з няўхільным павелічэннем смяротнасці, зніжэннем нараджальнасці і скарачэннем працягласці жыцця **(гл.малюнак 3)**. Як гэта адбілася на форме дэмаграфічнай піраміды, добра бачна, бо за апошнія 15 гадоў яна набыла выгляд падсечанага дрэва: яе падмурак стаў ўдвая вужэйшы за цела! А гэта ў сярэднетэрміновай перспектыве азначае змяншэнне насельніцтва рэгіёна ўдвая! **(На малюнку 4** паказаны прагназуемы выгляд дэмаграфічнай піраміды Гомельшчыны; бачна, што яе плошча ўдвая меншая за цяперашнюю). Але такі прагноз справядлівы толькі ў тым выпадку, калі сітуацыю ўжо сёння ўдасца стабілізаваць, калі ўдасца спыніць рост смяротнасці і зніжэнне нараджальнасці. Калі ж стабілізаваць гэтыя паказчыкі не ўдасца, дык можна чакаць поўнага вымірання палешукоў.

Не будзе перабольшваннем сцвярджаць, што падобныя тэндэнцыі і прагнозы характэрныя і для іншых, пацярпелых ад катастрофы, рэгіёнаў краіны, і для ўсёй Беларусі цалкам. Бо на мапе нашай краіны чарнобыльская навала ў літаральным сэнсе не пакінула «жывога» месца.

Прадбачу аргумент апанентаў, што пагаршэнне дэмаграфічнай сітуацыі на Гомельшчыне і Беларусі цалкам звязана не толькі з медыка-біялагічнымі наступствамі катастрофы на ЧАЭС, але і з сацыяльнымі, эканамічнымі ды палітычнымі фактарамі. І з такой тэзай нельга не пагадзіцца. У тэарэтычным плане сацыяльныя, эканамічныя і палітычныя фактары нашага жыцця могуць у значнай ступені мінімізаваць наступствы радыяцыйнай катастрофы або ўзмацніць іх.

Бяруся сцвярджаць, што ў нашым выпадку палітыка кіраўніцтва краіны (каланіяльнай адміністрацыі часоў СССР і РБ) была скіраваная не на ліквідацыю наступстваў чарнобыльскай бяды, а на іх прыхаванне, што ў значнай ступені і прывяло да дэмаграфічнай катастрофы, да вымірання насельніцтва.

Сапраўды, спачатку савецкімі, а пазней беларускімі каланіяльнымі ўладамі быў абраны езуіцкі метад змяншэння наступстваў аварыі на ЧАЭС, які можна звесці да формулы: «ХТО НЕ НАРАДЗІЎСЯ - ТОЙ АД РАДЫЯЦЫІ НЕ ПАМРЭ». Адразу пасля чарнобыльскай аварыі цяжарным беларускім жанчынам настойліва рэкамендавалі пазбаўляцца ад плоду, бо нібыта рызыка нарадзіць «чарнобыльскага мутанта» была высокая. Такая рызыка сапраўды ў той час была больш высокая, чым звычайна. Але ці падстава гэта для таго, каб пусціць пад «нож» цэлае пакаленне беларусаў? Безумоўна, не. Але працавала іншая, людажэрная логіка - лепш забіць 1000 здаровых плодаў, чым сапсаваць постчарнобыльскую статыстыку парокаў ад нараджэння адным дадатковым «мутантам»! **На малюнку 3** стрэлкай адзначана рэзкае зніжэнне нараджальнасці ў 1987 годзе, якое звязана з не менш рэзкім павелічэннем колькасці «абортаў па медычных паказаннях».



Мал. 4. Прагназуемы выгляд *Дэмаграфічнай піраміды* Гомельшчыны ў сярэднетэрміновай перспектыве (паказаны ў цэнтры). Аптымістычны варыянт развіцця сітуацыі і прадугледжвае толькі (!?) двухразовае скарачэнне насельніцтва вобласці

Аднак адным годам усё не скончылася. Пасля адноснага «рэнесансу» 1988 года, калі нараджальнасць трохі павысілася, назіралася далейшае ўстойлівае зніжэнне паказчыка нараджальнасці, звязанае са штучным яе стрымліваннем. Стрымліваць нараджальнасць было тым лягчэй, што да чарнобыльскага сіндрому (страху нарадзіць непаўнавартаснае дзіця) дадаліся эканамічныя (зніжэнне ўзроўню жыцця) і сацыяльныя (разбурэнне сям'і) праблемы, якія павялічылі няўпэўненасць у заўтрашнім дні. На гэтым фоне малейшыя сумненні гінеколага адносна развіцця цяжарнасці ўспрымаліся жанчынамі як прамы загад на выкананне аборту. У выніку дайшло да таго, што сёння з кожных трох зачатых беларусаў двух забіваюць у лоне маці!!! Фактычна некалькі пакаленняў беларусаў у літаральным сэнсе былі спушчаны ў бальнічны ўнітаз! Гэта нечуваны ў свеце і ганебны факт. Ва ўсякім выпадку, Гітлеру такое і не снілася.



Мал.3. Дынаміка нараджальнасці і смяротнасці на Гомельшчыне. *Дэмаграфічныя нажніцы* ўтварыліся ў 1992 годзе.

Катастрафічнае зніжэнне нараджальнасці ўсе гэтыя гады адбывалася на фоне няўмольнага росту смяротнасці ды скарачэння працягласці жыцця. У выніку чаго ў 1991-1992 гадах на Гомельшчыне ўтварыліся так званыя дэмаграфічныя нажніцы **(гл.малюнак 3)**, калі смяротнасць дагнала, а пасля і перагнала нараджальнасць. Тэмпы вымірання людзей пачынаюць павялічвацца **(гл.малюнак 2)**. На цяперашні час адмоўны прырост насельніцтва вобласці складае мінус пяць чалавек на кожную тысячу. Пры гэтым у асобных раёнах Гомельшчыны (Брагінскі, Буда-Кашалёўскі, Гомельскі, Добрушскі, Лоеўскі, Петрыкаўскі, Рагачоўскі раёны) смяротнасць ў два-тры разы перавышае нараджальнасць, а адмоўны прырост складае мінус 10-15 чалавек на тысячу!

Якія ж захады прымаюць каланіяльныя ўлады ў сувязі са скарачэннем насельніцтва? Паказальна, што яны спрабуюць выправіць дэмаграфічную статыстыку, не ратуючы беларусаў, а заахвочваючы каланізацыю Палесся прышлым элементам з усёй прасторы былога СССР. У 1997 годзе Гомельскі аблвыканкам з дазволу Саўміна прымае пастанову, па якой легалізуюцца, атрымліваюць работу, жыхарства, сацыяльныя гаранты ўсе нелегальныя мігранты ў большасці раёнаў Гомельшчыны. У выніку такой палітыкі ўладаў на Палессе пацягнуліся дзесяткі тысяч бежанцаў, бамжоў і беглых крымінальнікаў з Расеі, Таджыкістана, Афганістана, Узбекістана, Малдовы, гарачых кропак Каўказа... Па колькасці мігрантаў Беларусь выйшла на вядучае месца ў Еўропе. Вось так на нашых вачах пад монаэтнічную Беларусь закладаецца бомба будучых міжэтнічных канфліктаў!



Мал. 2 Дынаміка народанасельніцтва Гомельшчыны

У структуры смяротнасці Гомельскай вобласці першае месца займаюць хваробы крывазвароту (56,6 працэнта), другое - новаўтварэнні (13,2 працэнта). І ў першым і ў другім выпадках прасочваецца ўплыў радыяцыйнага фактару: вядома, што менавіта сэрца больш за іншыя органы інкарпаруе радыяцыйны цэзій, вядома таксама, што малыя дозы радыяцыі значна павялічваюць рызыку новаўтварэнняў.

За постчарнобыльскі перыяд значна скарацілася сярэдняя працягласць жыцця людзей і асабліва мужчын (62 гады), якія ў большасці не дажываюць да пенсійнага ўзросту. Яшчэ горшая статыстыка працягласці жыцця вяскоўцаў.

Нягледзячы на такія адмоўныя тэндэнцыі каланіяльныя ўлады шмат гадоў фактычна ігнаруюць праблемы пацярпелых рэгіёнаў. Заганнай практыкай стала фінансаванне так званых чарнобыльскіх праграмаў на 10-30 працэнтаў ад запланаванага (не кажучы ўжо ад неабходнага). Чарговая праграма з помпай прымаецца, закладваецца ў бюджэт, а пасля не выконваецца. І так з года ў год. Прыкладам, толькі летась Веткаўшчына недаатрымала з чарнобыльскага фонду больш за 100 мільёнаў рублёў. Як вынік такой палітыкі, у пацярпелых ад аварыі Свяцілавічах за 15 гадоў не здолелі нават правесці газіфікацыю, і мясцовыя жыхары па-ранейшаму гатуюць ежу на мясцовых жа радыеактыўных дровах у печах, ужо празваных у народзе «атамнымі мінірэактарамі». Ужо даўно не ідзе нават гаворкі пра забеспячэнне людзей чыстымі прадуктамі харчавання, вадою. Працягваецца сельскагаспадарчае і бытавое выкарыстанне зоны адчуджэння. Нідзе пры правядзенні сельскагаспадарчых работаў не выконваюцца нават прымітыўныя мерапрыемствы, скіраваныя на ахову здароўя працоўных.

Характэрна, што за паўтары дзесяцігоддзі на дзяржаўным узроўні ніхто нават не паставіў задачу фармавання ў людзей постчарнобыльскай культуры - спецыфічнага спосабу жыцця (выжывання) людзей, якія вымушаны існаваць на ўмовах уздзеяння малых дозаў радыяцыі. Гэтаму не вучаць дзяцей у школах. Гэтаму не вучаць настаўнікаў і бацькоў. Таму і новае пакаленне беларусаў таксама не мае шанцаў на выжыванне!

Падводзячы вынікі сказанага, можна канстатаваць, што:

- катастрофа на ЧАЭС нясе смяротную пагрозу беларускаму народу, які і па сёння не здолеў даць адэкватнага адказу на яе выклік;
- медыка-дэмаграфічныя наступствы атамнай катастрофы 1986 года для беларусаў ужо пераўзыходзяць наступствы другой сусветнай вайны і ў перспектыве пагражаюць нашаму народу выміраннем;
- каланіяльная адміністрацыя нашай краіны праводзіць палітыку прыхавання наступстваў чарнобыльскай бяды, замест іх ліквідацыі, што спрыяе разгортванню дэмаграфічнай катастрофы на Беларусі;
- эканамічныя, сацыяльныя і культурныя наступствы ўладарніцтва чужынцаў праяўляюцца ў эканамічным, сацыяльным і культурным заняпадзе краіны, на фоне чаго наступствы чарнобыльскай навалы павялічваюцца шматкроць.

Асэнсаваць праблему і зразумела яе сфармуляваць - гэта важная частка справы, але яшчэ не ўся, бо трэба таксама адказаць на пытанне: як гэтую праблему можна вырашыць?

Абсалютна відавочна, што вырашэнне акрэсленай праблемы немагчыма ва ўмовах каланіяльнага існавання беларусаў. Калоніі для таго і патрэбны, каб іх рабаваць. Таму каланіяльны статус Беларусі, яе палітычная і эканамічная падпарадкаванасць Расеі не пакідаюць нашаму народу шанцаў на выратаванне.

Вось чаму найпершай палітычнай умовай выратавання ёсць адхіленне ад улады каланіяльнай адміністрацыі (незалежна ад таго, хто яе ўзначальвае сёння і хто б яе ні ўзначаліў заўтра) і замена яе нацыянальным урадам, які будзе наўпрост зацікаўлены ва ўратаванні нацыі, у сапраўднай ліквідацыі наступстваў аварыі.

Як паказвае досвед нашых бліжэйшых суседзяў (Польшча, Прыбалтыка, Чэхія...), рэальная незалежнасць гарантуе ўздым эканомікі ды ўзроўню жыцця насельніцтва, адраджэнне культуры, што стварае спрыяльны сацыяльна-эканамічны фон для пераадолення наступстваў экалагічнай катастрофы.

Нацыянальны ўрад павінен распрацаваць рэальную (а не дэкларатыўную) праграму ліквідацыі наступстваў аварыі і паслядоўна яе рэалізаваць.

На мой погляд, у адным са сваіх раздзелаў гэтая праграма павінна прадугледжваць правядзенне з дапамогай дзяржаўных СМІ інфармацыйнай палітыкі, скіраванай на давядзенне да насельніцтва ўсёй небяспекі пражывання на забруджаных землях, усіх медыка-дэмаграфічных наступстваў катастрофы, а таксама прапаганду постчарнобыльскай культуры, авалодаць якой за кароткі час павінны не толькі дзеці, але і дарослае насельніцтва. Дашкольныя і школьныя ўстановы краіны таксама павінны будуць заняцца фармаваннем постчарнобыльскай культуры дзяцей і моладзі.

Адначасова давядзецца прыняць меры па даадсяленні людзей з тэрыторыяў, дзе бяспечнае пражыванне немагчымае, астатняе насельніцтва павінна быць забяспечана радыяцыйна чыстымі прадуктамі харчавання і вадой.

Запатрабуе неадкладнага вырашэння і задача павелічэння нараджальнасці ды працягласці жыцця, а таксама зніжэння захворваемасці ды смяротнасці насельніцтва... Але я не збіраюся тут выкладаць нейкую гатовую праграму. Бо разглядаемая праблема мае агульнанацыянальны характар і павінна вырашацца на дзяржаўным узроўні, з прыцягненнем лепшых беларускіх і замежных спецыялістаў.

**Уладзімір Старчанка,**
**кандыдат педагагічных навук,**
**намеснік старшыні**
**Кансерватыўна-Хрысціянскай**
**Партыі - БНФ**

**P.S.: Фактычна на працягу 15 постчарнобыльскіх гадоў супраць беларусаў каланіяльнымі ўладамі вядзецца неабвешчаная прыхаваная вайна, мэта якой - знішчэнне беларускага народа, вызваленне жыццёвай прасторы і засяленне яе прышлым элементам. Дзеля гэтага не выкарыстоўваюцца, як у ранейшыя часы, самалёты, танкі, агністрэльная зброя, газавыя камеры і не будуюцца асвенцымы. Хаця і пачалася гэтая вайна ўвесну 1986 года якраз з таго, што савецкія ваенныя самалёты асаджалі радыяцыйныя аблокі на Гомельшчыну і Магілёўшчыну.**

**У век інфармацыйных і палітычных тэхналогіяў у гэтым няма патрэбы. Асабліва, калі гаворка ідзе пра знішчэнне зрусіфікаванага за 200 гадоў каланіяльнага існавання «братняга» беларускага народа, якому нож пад сэрца можна засунуць, гледзячы проста ў вочы і гаворачы пяшчотныя словы пра вечную любоў ды інтэграцыю. Нашы даверлівыя людзі ўсё роўна пярэчыць не будуць. Не чачэнцы ж якія-небудзь.**

 

# «Гродна-93» едзе ў Адэсу




**Нечакана прыемнае паведамленне прыйшло 12 сакавіка са штаб-кватэры Паўночна-Еўрапейскай Баскетбольнай Лігі. Віцэ-прэзідэнт ПЕБЛ Альгімантас Павілоніс запрасіў гарадзенскі баскетбольны клуб «Гродна-93» прыняць удзел у «Фінале чатырох» «Nebl Challenge Cup», які пройдзе ў Адэсе 27-28 красавіка.**

Гэта стала магчымым дзякуючы адмове ад ўдзелу ў «Фінале чатырох» расейскага «Спартака» (узніклі фінансавыя складанасці) і нямецкага «Олівера» (спасаліся на занятасць у нацыянальным чэмпіянаце). Нагадаем, што напрыканцы сакавіка ў Гродне піцерскі «Спартак» у фінале групы «Е» перамог нямецкі «Олівер».

Супернікамі «93»-х будуць украінская каманда МБК «Адэса», ангельскі «Бірнімген» і літоўская «Аліта». 27 красавіка пройдуць дзве паўфінальныя гульні. Іх пераможцы на наступны дзень будуць сустракацца ў фінале, а прайграўшы - у матчы за трэцяе месца.

# «Алімпія» на Алімпе

**14.04 Другая гульня. «Алімпія» (Гродна) - «Бярэзіна-АФ» (Барысаў) - 84:76 (22:13, 23:23, 21:19, 18:21) (Панасюк - 21, Гапонава - 17, Курсевіч - 15, Дрозд - 13, Шупляцова - 12).**

**15.04 Трэцяя гульня. «Алімпія» - «Бярэзіна-АФ» - 91:83 (22:12, 25:22, 18:27, 26:22) (Дрозд - 23, Курсевіч - 21, Шупляцова - 18, Панасюк - 14, Гапонава - 9, Цярэнцьева - 6). Вынік серыі 3:0.**

У мінулую нядзелю ў Гродне адбылося тое, чаго чакалі доўгі час прыхільнікі жаночага баскетболу. Гарадзенская «Алімпія» упершыню ў сваёй гісторыі стала чэмпіёнам Беларусі.

Перадгульнявы расклад быў просты і зразумелы: калі «Алімпія» перамагае, то становіцца чэмпіёнам, калі не - то едзе ў Барысаў на чацвёртую і, мажліва, пятую гульню, што было не пажадана. І гарадзенкі ўжо з пачатку нядзельнага матча вызначылі гульнёвыя прыярытэты. На вялікі перапынак каманды пайшлі пры ліку 47:34 на карысць «Алімпіі». І, відавочна, гарадзенкі паверылі ў сваю перамогу: Чаго і чакаў Рыгор Калента, трэнер «Бярэзіны», які ў перапынку знайшоў неабходныя словы, каб «завесці» сваіх дзяўчатаў.

Усю трэцюю дзесяціхвілінку гуляла адна каманда - «Бярэзіна» і як след толькі «-4» пасля трыццаці хвілінаў гульні. У гэты момант і гледачы зажурыліся. Але ж гарадзенак выратаваў, як вы маркуеце, хто?.. Усё той жа Рыгор Калента. Ён пасля ўжо не першага спрэчнага моманту выказаў суддзі ўвесь свой запас ненарматыўнай лексікі. За што і быў пакараны дзвюма тэхнічнымі фаламі і выгнаны з залы.

Такога ўдару «Бярэзіна» вытрымаць ужо не здолела.

__Адразу пасля пераможнай гульні галоўны трэнер «Алімпіі» Аляксандр Шымкаваяк даў інтэрв'ю карэспандэнту ПАГОНІ.__

***- Сан Саныч, віншуем Вас з перамогай!***

- Мяне поўніць пачуццё выкананага абавязку. Вельмі рады за сваіх дзяўчатаў.

***- Каго можаце вылучыць у складзе «Алімпіі»?***

- Цяжка кагосьці вылучыць. Стабільна ўвесь сезон адгулялі Лідзія Панасюк і Надзея Дрозд. Яны былі лідаркамі каманды, нягледзячы на свой узрост. Вольга Цярэнцьева з прычыны траўмаў проста не магла паказваць сталую, стабільную гульню. Што датычыць Святланы Гапонавай, то прафесіянал ёсць прафесіянал. Яе майстэрства, досвед, разуменне гульні нам вельмі дапамаглі. Яна практычна была другім трэнерам на пляцоўцы. Кацярына Шупляцова гуляла па сінусоідзе: усплёскі, пад'ёмы, спады. Да заканчэння чэмпіянату нам удалося больш-менш падвесці баскетбалістак да іх аптымальнай формы, паказаць камандную гульню, згуртаваць... Вялікая роля ў гэтым належыць Вользе Курсевіч, якая з'яўляецца «ядром» каманды. Яна вельмі хутка знайшла агульную мову з Панасюк, Дрозд, Цярэнцьевай. Таму і з'яўляецца сярэднім звяном паміж дасведчанымі ды маладымі баскетбалісткамі.


Аляксандр Шымкавяк

... Вялікая заслуга ў нашай перамозе належыць Аляксандру Дубко. Ён напачатку сезона паверыў мне і даручыў пасаду галоўнага трэнера «Алімпіі». На святкаванні апошняга дня нараджэння Аляксандр Іосіфавіч запэўніў мяне ў сваім даверы і сказаў: «Я дапамагаў Вам, але мала...». Таму мы не мелі права саступаць «Бярэзіне» ў фінале, хаця б у памяць Аляксандра Дубко.


Лідзія Панасюк (злева) і Святлана Гапонава

# Першае ачко «Нёмана»

## Яго гарадзенцы зарабілі ў Гродне ў гульні другога тура з «Гомелем»



**Футбалісты «Нёмана» ўпершыню ў гэтым сезоне паўсталі перад вачыма сваіх прыхільнікаў. Таму пасля паразы ў першым туры гарадзенцы пастараліся не сапсаваць ім настрой.**

На працягу ўсіх 90 хвілінаў «Нёман» вёў гульню першым нумарам. Галоўную скрыпку ў іх ігралі Віталь Тарашчык і Віктар Юйко. Дакладныя пасы іх не аднойчы выводзілі гарадзенскіх галеадораў на ўдарныя пазіцыі. Аднак, амаль заўсёды на шляху мяча паўставаў брамнік «Гомеля» Дусманаў, які лавіў усё, што ляцела ў рамку брамы. А калі і ён быў бяссільны, на дапамогу прыходзілі абаронцы (на 65-й хвіліне экс-гарадзенец Алег Сысоеў вынес мяч з лініі брамы) ды штанга пасля ўдару Дзенісені. Напрыканцы сустрэчы выдатную магчымасць адзначыцца меў Дзмітрый Кавалёнак, які выйшаў на замену. Але замарудзіў з ударам. Да фінальнага свістка футбалісты так і не здолелі змяніць пачатковы лік гульні - 0:0.

Пасля двух тураў «Нёман» з адным ачком займае 11-е месца.

**Дзеніс Курчэўскі**

**Па гарызанталі:** **7.**Што застаецца нам «ад прадзедаў спакон вякоў»? **8.**Як звалі мужа Агаты з купалаўскай «Паўлінкі»? **10.**Самы час для снедання. **11.**Родны востраў Напалеона. **12.**Луг у пойме ракі. **14.**Базар, больш падобны на канцэрт. **16.**Прылада ў кроснах. **17.**Мэта, разумная падстава. **19.**Жывы арганізм. **20.**Вырас пад неба, а лодыр як трэба. **24.**Званочкі пад дугою. **25.**Лаўка на ножках у хаце. **26.**Інакш - падбярозавік. **30.**Непакой. **31.**Слынны пецярбургскі музей. **32.**Грошы, каштоўныя рэчы. **33.**Зборнік вершаў А.Лойкі. **34.**Знак Задыяку.

**Па вертыкалі:** **1.**Чэрпае з каструлі ў талерку. **2.**Зацішнае сховішча. **3.**Конь, але не жывёліна; бервяно, але не ствол дрэва. **4.**Пешаходнае па. **5.**Царкоўны столік для вянчання. **6.**Зборнік апавяданняў Барыса Мікуліча. **9.**Дока. **13.**Мэта пры разгадванні крыжаванкі. **15.**Гарадок на Нёмане. **17.**Дымка, туман. **18.**Цяж у возе. **21.**Род, сям'я. **22.**Упадак духу. **23.**Раённы цэнтр у Брэсцкай вобласці. **27.**Такіх падбіраюць у рэкецiры. **28.**І Шагал, і Савіцкі. **29.**Сталярны інструмент. **32.**Прылада рыбака.



### Адказы на крыжаванку, змешчаную ў N15

**Па гарызанталі:** **7.**Назоўнік. **8.**Цемрашал. **10.**Апона. **11.**Прагрэс. **12.**Шкілет. **14.**Знічка. **16.**Шырма. **17.**Броўка. **19.**Броўка. **20.**Арбітр. **24.**Сырт. **25.**Верад. **26.**Абакан. **30.**«Дрыгва». **31.**Трактар. **32.**Бекар. **31.**Шарваркі. **34.**Імшарына.

**Па вертыкалі:** **1.**Жамерыны. **2.**Аўторак. **3.**Пікасо. **4.**Вежа. **5.** «Юрачка». **6.**Хадкевіч. **9.** «Россып». **13.**Хмара. **15.**Чарот. **17.**Цётка. **18.**Склеп. **21.**Чыгрынаў. **22.**Карскі. **23.**Забабоны. **27.**Браслаў. **28.**Звычай. **29.** «Строма». **32.**Баку.

# На Гарадзеншчыне разводзяць вінаграднага смаўжа

**Гарадзенская фірма «Мока» ў мінулым годзе загатавала 56,5 тоны вінаграднага смаўжа. Лідская аўташкола - дзве тоны.**

Пад строгім наглядам інспекцыі па ахове прыроды «Мока» таксама расселіла па шасці раёнах вобласці чвэрць тоны будучага далікатэсу.

# Слонімскі натураліст-аматар вырошчвае цукровую расліну

**Жыхар Слоніма Леанід Стэцюк у хатніх умовах вырошчвае ўнікальную для Беларусі расліну - стэвію.**

Як паведаміў натураліст-аматар, стэвія, радзімай якой з'яўляецца Паўднёвая Амерыка, даволі паспяхова замяняе цукар - кілаграм свежых лістоў па «саладосці» роўны прыкладна 20-ці кілаграмам цукру. Пры гэтым выкарыстанне расліны не мае, у адрозненне ад цукру, ніякіх супрацьпаказанняў. Медыкамі ЗША, Японіі, дзе апошнім часам стэвія актыўна культывуецца, адпаведна словам Леаніда Стэцюка, адзначана лекавае ўздзеянне гэтай расліны пры прафілактыцы сардэчна-сасудзістых і шэрагу іншых захворванняў.

Расце стэвія ў доме Леаніда Стэцюка на падаконніку і балконе, ўлетку перасаджваецца ў агарод. Гадавая патрэба чалавека ў цукры задавальняецца 10-12 раслінамі, якія дасягаюць у вышыню ад 50-ці сантыметраў да метру.

# Карэліцкі раён набывае біягазавую ўстаноўку

**Магчыма, што на адным з жывёлагадоўчых комплексаў Карэліцкага раёна Гарадзенскай вобласці будзе зманціравана біягазавая ўстаноўка для вытворчасці цяпла і электраэнергіі, якая будзе працаваць на дзіванне (каравяку). Устаноўку коштам 200 тысяч даляраў плануецца закупіць у Германіі. А акупіцца яна на працягу пяці гадоў, у той час як ветраэнергетычная ўстаноўка - за дзесяць гадоў. Апрача таго, у перспектыве ёсць намер наладзіць выпуск такога абсталявання на айчынных прадпрыемствах.**

**Юрый Гапон**




♈ **Баран (21.03-20.04).** Вам, як ніколі, спатрэбіцца ўнутраны спакой і ўраўнаважанасць. Бязлітасна змагайцеся з хаосам у Вашых справах і думках.

♉ **Бык (21.04-20.05).** Вы можаце адчуць патрэбу ў адпачынку, але наўрад ці Вам удасца расслабіцца. Затое Вы будзеце знаходзіцца ў цэнтры ўвагі ўсіх, хто апынецца побач.

♊ **Блізняты (21.05-21.06).** Зоркі запэўніваюць, што Вам удасца ўхапіць за хвост «птушку шчасця» і трохі паскубаць ёй пер'е. Куйце жалеза, пакуль не астудзілі яго красавіцкія вятры.

♋ **Рак (22.06-22.07).** Не змушайце сябе рабіць тое, што вымагае неабгрунтавана вялікіх эмацыйных затратаў. Фінансавыя чаканні, нарэшце, спраўдзяцца.

♌ **Леў (23.07-23.08).** У Вас, як у сапраўдных львоў будзе пераважаць жаданне паесці мяса і заваліцца на бакавую. Не варта пазычаць грошы, тым больш немалыя.

♍ **Панна (24.08-23.09).** Адмоўцеся ад ідэі скончыць менавіта на гэтым тыдні ўсе недаробленыя справы. Што Вы потым рабіць будзеце?

♎ **Шалі (24.09-23.10).** Падзеі, на якія будзе багаты гэты тыдзень, спрыяльна паўплываюць на ваш настрой і самаадчуванне. Вечар прысвяціце сям'і.

♏ **Скарпіён (24.10-22.11).** Невырашальныя, як Вам падавалася, пытанні ўрэгулююцца нібыта самі сабою. Адчуеце палёгку і жаданне наведаць сяброў.

♐ **Стралец (23.11-21.12).** Вы здолееце амаль усіх вакол зачараваць сваёй абаяльнасцю. Поспех у неадкладных справах Вам забяспечаны.

♑ **Казярог (22.12-20.01).** Будзьце ўважлвей і спагадлівей у стасунках з людзьмі, асабліва процілеглага полу. Узаемаразуменне куды лепш за нянавісць.

♒ **Вадалей (21.01-19.02).** Паспрабуйце жартамі адкараскацца ад тых, хто будзе лезці да Вас з бязглуздымі парадамі ды прапановамі.

♓ **Рыбы (20.02-20.03).** Разнастайныя запамінальныя падзеі цалкам задаволяць Вас, калі не будзеце злоўжываць спіртным і дасце волю свайму ўяўленню ды фантазіі.

ПАГОНЯ
Заснавальнік: культурна-асветніцкі фонд "Бацькаўшчына"

Адрас рэдакцыі: 230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11. Тэл.72-37-14, 72-35-61, факс 72-29-96. E-mail: pagonia@irex.minsk.by Падпісны індэкс: 63124.

Рэгістрацыйны нумар 597. Нумар газеты надрукаваны ў Гарадзенскім абласным унітарным паліграфічным прадпрыемстве «Гродзенская друкарня» Адрас: 230023, г.Гродна, вул. Паліграфістаў, 4. Нумар падпісаны да друку ў 16.00 18.04.2001 г. Замова 1 446 Наклад 8 015

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні не абавязкова адлюстроўваюць погляд рэдакцыі. Якасць друку адпавядае пададзеным рэдакцыяй дыяпазітывам. Аб'ём - два ўмоўныя друкарскія аркушы.

Галоўны рэдактар Мікола Маркевіч

Камп'ютарны набор: Аксана Бурдзюк, камп'ютарная вёрстка: Аляксей Салей